ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 40 (2442) 19 кастрычніка 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

ПАТРЭБА Ў ІСНАВАННІ ТБМ ЗАСТАЕЦЦА ПІЛЬНАЙ

## ПАКУЛЬ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ МОВА, БУДЗЕ ЖЫЦЬ І БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА

У Доме літаратара ў Мінску адбыўся чарговы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Каля 150 дэлегатаў з усіх куткоў краіны сабраліся тут, каб падвесці вынікі працы за два мінулыя гады, акрэсліць накірункі дзейнасці на будучыню. Адкрыў з'езд старшыня ТБМ, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. У рабоце з'езда бралі ўдзел старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб, намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда, былы спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, старшыня БНФ Зянон Пазьняк, а таксама такія вядомыя дзеячы і абаронцы беларускай мовы, як Радзім Гарэцкі, Генадзь Бураўкін, Мікола Ермаловіч, Адам Мальдзіс і шмат іншых.

Таварыства беларускай мовы было створана ў 1989 годзе на новай хвалі працэсу адраджэння ў Беларусі. Найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам існавання ТБМ было і ёсць аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, адраджэнне на гэтай падставе гістарычнай памяці, традыцыйнай культуры і сімволікі. На жаль, патрэба ў існаванні такога аб'яднання ў грамадстве за гэты час не толькі не адпала, а стала яшчэ больш актуальнай. "Праца вашага таварыства святая, -- адзначыў у сваім звароце да з'езда старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб. -- Наколькі мне вядома, нідзе ў свеце, акрамя, падаецца, Украіны, такога таварыства больш няма. Сапраўды, дзе, у якой краіне ёсць патрэба ў абароне дзяржаўнай мовы?.. Усім павінна быць зразумела: ёсць мова -- ёсць нацыя, ёсць краіна. Няма мовы -- няма нацыі, няма краіны. Шлях да таго, калі беларускае слова сагрэе душу і сэрца нашых людзей, яшчэ вельмі доўгі. Але гэта наш агульны шлях, і я гатоў ісці з вамі разам. Я веру ў сва Айчыну, у яе светлую будучыню

Мяркую, не варта згадваць, што ўмовы, у якіх таварыства пачынала сваю дзейнасць, і ўмовы, у якіх яно мусіць працаваць пасля р ферэндуму, вельмі і вельм розняцца. Нельга не адзначыць, што з часу свайго заснавання ТБМ зрабіла шмат карыснага. За кароткі тэрмін яно пераўтварылася ў сапраўдны рух за родную мову, беларускую культуру. Шмат зроблена, каб быў прыняты закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, каб зрабіць адукацыю нацыянальнай. Было выдадзена шэраг кніг і даведнікаў. Але сёння відавочна і тое, што беларуская ідэя ў дзяржаве Беларусь пацярпела паразу і пераломy, пераходу на ўласны нацыянальны беларускі тып мыслення пакуль што не адбылося.




НА ЗДЫМКУ: прэзідыум IV з'езда ТБМ імя Францішка Скарыны.

Фота Віктара СТАВЕРА.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Залатыя фарбы "бабінага лета".

Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

З II МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ

## ЗАСТАЮЧЫСЯ САБОЮ

### "УСХОД" І "ЗАХАД" У МАСТАЦКІМ СВЕТАБАЧАННІ Янкі КУПАЛЫ

У кожнага народа, як і ў асобнага чалавека, свой непаўторны лёс. Адметнасць беларускага лёсу, Беларускага Шляху -- у замаруджанасці, незавершанасці нацыянальнатворчага працэсу і, як вынік, -- у нікласці самасцвярджальных, волевыяўленчых якасцей беларускае супольнасці. Драматычная, з трагікамічным адценнем дылема паміж тэрыторыяй і нацыяй, насельніцтвам і народам, ускраінай і краінай, тутэйшасцю і нацыянальнасцю гэтак жа востра і на зыходзе, як і на пачатку XX стагоддзя, праціная розум і сэрца ледзь не кожнага свядомага беларуса. І сучасны паэт-пачатковец лішні раз прыгадаў нам пра злабадзённасць Купалавага запытання ("А хто там ідзе?.."): "Згорбленая бабулька-Доля / Безнадзейна блукае на мяжы Расеі і Польшчы. / Дзе тая краіна, што шукала шчасця? / Дзе той народ, які абвясціў, што ідзе?"

Гэтая ж праблема кволасці беларускага "я", няпэўнасці нацыянальна-палітычнага і духоўнага самавызначэння й самасцвярджэння жыхароў "прамежкавае" (паміж Усходам і Захадам) краіны апошнім часам не сыходзіць з праграм навуковых канферэнцый, са старонак манаграфічных і публіцыстычных прац, не кажучы пра надзвычай павышаны патрыятычны неспакой беларускага мастацкага слова. На фоне разняволенай грамадска-творчае думкі адвечны дэфіцыт Беларушчыны ў Беларусі -- ці не найвастрэйшы з усіх іншых нястач -- не здаецца нам неадольным. Здабыванне ўласнае Бацькаўшчыны, шлях беларуса да Беларусі -- якім ні быў бы цярністым, задоўжаным -- завершыцца гістарычнай перамогай. А знача і Беларушчына ў Беларусі -- разняволенае нацыянальнае жыццё ва ўсёй сукупнасці і паўнаце (мова, культура, палітыка, эканоміка, наогул грамадскі лад) -- з традыцыйна напружанага, змагарнага стану "віхуры і націску", "мужнасці і геройства" набудзе ўрэшце натуральны, унармаваны характар. А посткаланіяльны абшар на геаграфічным стыку еўрапейскага Усходу і Захаду, знаны ў свеце, ад нядаўняга, пад фармальнай назвай Рэспубліка Беларусь, пачне прываблiваць тоеснасцю нацыянальнага аблічча, адэкватным саманазве спосабам і стылем быцця.

На карысць аптымістычнага зыходу ў беларускім, скрозь яшчэ адкрытым пытанні сведчыць этнічная жыццеўстойлівасць беларусаў, загартаваная ў шматвяковым процістаянні асімілятарскаму націску суседніх польскага і асабліва рускага этнасаў. Сведчыць немалы крытычны досвед, назапашаны ў Беларускім вызвольным Слове, а найперш у класічнай спадчыне нашых пісьменнікаў, паэтаў, Янкі Купалы ў прыватнасці.

* * *

Агульна кажучы, праблема "Усходу" і "Захаду" -- пастаянны, адзін з вядучых матываў гісторыка-філасофскай рэфлексіі, мастацкай фантазіі паэта, прыкметная тыпалагічная рыса Купалавай адраджэнчай легенды, Купалавага вызваленчага нацыяналізму, што пасля доўгіх гадоў маны і зняварі, праз уз'юшаны супраціў далакопаў беларушчыны знову прамаўляе да слыху й сумлення беларускага чалавека.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ПАМЯЦІ М. ТАНКА

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пастаноўлена ўвекавечыць памяць народнага паэта Беларусі Максіма Танка (Скурко Я.І.).

Будуць ўстаноўлены ў 1996 годзе за кошт сродкаў Кабінета міністраў мемарыяльная дошка на доме N 15 па вуліцы Кульман у Мінску, дзе жыў Максім Танк; помнік на магіле Максіма Танка ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Прэзідэнт пастанавіў прысвоіць імя Максіма Танка Беларускаму дзяржаўнаму педагагічнаму універсітэту, Мінскаму педагагічнаму вучылішчу і Мядзельскай раённай бібліятэцы Мінскай вобласці.

Мінскаму гарвыканкому даручана вырашыць пытанне аб прысваенні імя Максіма Танка адной з вуліц у Мінску.

Міністэрству культуры і друку выдаць у 1996--1998 гадах поўны збор твораў Максіма Танка на беларускай мове і двухтомнік яго твораў на рускай мове.

Для студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, Беларускай акадэміі мастацтваў, а таксама навучэнцаў Мінскага педагагічнага вучылішча імя Максіма Танка ўстанаўліваецца па адной стыпендыі імя Максіма Танка ў памеры трох мінімальных заработных плат.

Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь павінна выпусціць сёлета тэлевізійны фільм аб жыцці і творчасці Максіма Танка.

## КАДРАВЫЯ ПЕРАСТАНОЎКІ

Указ аб кадравых перастаноўках у Адміністрацыі Прэзідэнта і ўрадзе падпісаў 10 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка.

Леанід Сініцын, які ўзначальваў Адміністрацыю Прэзідэнта, і Васіль Далгалёў -- намеснік кіраўніка Адміністрацыі, начальнік Службы кантролю Прэзідэнта накіраваны ў Кабінет міністраў віцэ-прэм'ерамі.

Міхаіл Мясніковіч назначаны кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. За ім захаваны статус і функцыі віцэ-прэм'ера Кабінета міністраў.

Указам Прэзідэнта Беларусі выконваючы абавязкі міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў, былы начальнік Галоўн штаба Узброеных Сіл рэспублікі, назначаны рам абароны.

*У КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ СУДЗЕ*

## ПАРЛАМЕНТ ЛЕГІТЫМНЫ

Канстытуцыйны суд разгледзеў справу " дпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь кула 7 Закона "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", артыкула 10 і чацвёртай часткі артыкула 63 Часовага рэгламента Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь". Канстытуцыйны суд прыняў наступнае рашэнне: Вярхоўны Савет Беларусі XII склікання захоўвае свае правамоцтвы да адкрыцця першай сесіі Вярхоўнага Савета XIII склікання. Карацей кажучы, "стары" парламент легітымны. Па справе было выказана асобае меркаванне суддзі Рыгора Васілевіча.

## ТЫМ НЕ МЕНШ...

Канстытуцыйны суд Беларусі, разгледзеўшы справу "Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь указа Прэзідэнта "Аб удакладненні бюджэта Рэспублікі Беларусь на 1995 год і часовых мерах па скарачэнню бюджэтных расходаў", не згадзіўся з пазіцыяй Прэзідэнта. Тым не менш Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае намер і ў далейшым выконваць указ Прэзідэнта аб дзяржбюджэце, нягледзячы на тое, што Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд наконт гэтага маюць асабістую думку.

*КІНО*

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СТАЎ УЛАДАЛЬНІКАМ "ЗАЛАТОГА ВІЦЯЗЯ"

У Маскве завяршыў сваю работу чацвёрты Міжнародны кінафестываль славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь". Толькі ігравых карцін тут было прадстаўлена звыш шасцідзесяці. У асобных конкурсных праграмах прымалі ўдзел таксама дакументальныя, анімацыйныя і відэафільмы.

Шмат было і прызоў. У ліку ўладальнікаў галоўных з іх -- грэчаскі рэжысёр Тэа Ангелопулас, які прадставіў мастацкую стужку з удзелам Жана Марэ і Марчэла Мастраяні.

Беларускія кінематаграфісты атрымалі шэсць высокіх узнагарод фестывалю. У прыватнасці, рэжысёр Дзмітрый Зайцаў удастоены прыза журы за мастацкі фільм "Кветкі правінцыі". "Бронзавага віцязя" у раздзеле відэа- і тэлефільмаў атрымаў Валерый Басаў за сваё "Імгненне радасці". Прыз "Скульптура воінапераможцы" прысуджана Юрыю Азаронку за фільм "Нянавісць", які набыў у Беларусі скандальную славу.

"Залаты віцязь" кінацэнтра і арганізатараў фестывалю прысуджаны Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, а "Сярэбраны віцязь" - прадстаўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміру Замяталіну.

*КІРМАШЫ*




У Мінску і ва ўсіх абласцях Беларусі прайшлі традыцыйныя кірмашы па продажу сельскагаспадарчай прадукцыі і многага іншага пад назвай "Восень-95". Удзельнічалі ў кірмашах і прадпрымальнікі і камерцыйныя структуры, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, якія прапаноўвалі тавары сваёй вытворчасці. Тут можна было таксама набыць насенне гароднінных культур, саджанцы, птушку, парасят, інвентар.

Як заўсёды, упрыгажэннем кірмашоў былі імправізаваныя канцэрты, выступленні народных калектываў мастацкай самадзейнасці, якія стварылі для ўсіх удзельнікаў атмасферу свята.

**НА ЗДЫМКУ:** кірмаш у Мінску.

*УЛАДА І ПРЭСА*

## НЕ ВЫЙШЛА "НАРОДНАЯ ВОЛЯ"

11 кастрычніка не выйшаў чарговы нумар "Народнай волі" -- першага ў рэспубліцы штодзённага незалежнага выдання, заснавальнікам і галоўным рэдактарам якога з'яўляецца Іосіф Сярэдзіч, былы рэдактар "Народнай газеты". Прычына гэтага, паводле слоў І. Сярэдзіча, -- фактычная забарона выдання. Беларускі Дом друку адмовіўся друкаваць газету на той падставе, што "Народная воля" парушыла Закон аб друку, выдавецтва скасавала з ёй дагавор.

На думку Іосіфа Сярэдзіча, ініцыятыва такога жорсткага рашэння без усякіх папярэджанняў зыходзіла менавіта ад начальніка Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна, ад яго ў Беларускі Дом друку і паступіла адпаведнае распараджэнне. Такі ж лёс напаткаў "Беларускую дзелавую газету" і штотыднёвік "Імя".

*ЗАМЕЖНЫЯ ГАСТРОЛІ*

## КАНЦЭРТЫ Ў ІСПАНІІ

Ужо чацвёрты год запар Акадэмічны анічны аркестр Беларусі і Акадэмічная харавая ла імя Р. Шырмы выязджаюць на гастролі ў Іспанію.

Іх цяперашняе канцэртнае турнэ стане ледзь не самым працяглым за ўсю гісторыю рэспубліканскй філармоніі (яно прадоўжыцца да 20 лістапада), і ахопіць многія буйныя іспанскія гарады, уключаючы Мадрыд, Валенсію, Севілью, Таледа, Алікантэ і іншыя. Музыканты з Беларусі дадуць каля сарака канцэртаў па ўсёй Іспаніі. Будуць выкананы дзевятая сімфонія Бетховена, сцэнічная кантата "Карміна Бурана" К. Орфа, аркестравыя творы Г. Вагнера.

*СТРЫМЛІВАЮЦЬ ЦЭНЫ*

## АДЗІН ТРАКТАР НА ЧАТЫРЫ ГАСПАДАРКІ

Здаецца, яшчэ зусім нядаўна кіраўнікі сельскіх гаспадарак днём з агнём шукалі дэфіцытную для вёскі тэхніку. Цяпер сітуацыя рэзка змянілася. Тэхнічныя цэнтры па продажу сельгасмашын, якія знаходзяцца ў многіх рэгіёнах былога Саюза, з пачатку года змаглі прадаць толькі 70 трактараў "Беларусь": стрымліваюць пакупніка вельмі высокія цэны на тэхніку.

Калі гадоў пяць таму кожная гаспадарка нашай рэспублікі магла сабе дазволіць штогод набываць па 2--3 трактары, 2 грузавікі, 1 камбайн, то за апошні год статыстыка такая: 1 трактар на чатыры гаспадаркі, грузавы аўтамабіль -- на дзесяць, а камбайны наогул ніхто не купляе.

*ПРАГНОЗЫ*

## ЦІ БУДЗЕ ЎСПЛЕСК ЗАБАСТОВАЧНАГА РУХУ?

Ці стане забастоўка ў Мінскім метро пачаткам масавых восенькіх забастовак, або жорсткія антызабастовачныя меры збілі магчымую хвалю? Мяркуючы па ацэнках апытання лідэраў грамадскай думкі, другі варыянт найбольш верагодны. Толькі трэць апытаных (32,1 працэнта) лічыць, што ўвосень нас чакае пад'ём забастовачнага руху. Разам з тым, многія лідэры меркаванняў чакаюць увосень рэзкага росту беспрацоўя. Аднак пры гэтым варта адзначыць значныя адрозненні ў ацэнках прадстаўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных структур: сярод першых амаль трэць прагназіруе масавае беспрацоўе, сярод другіх -- дзве трэці. Гэтыя адрозненні можна растлумачыць па-рознаму: прадстаўнікі дзяржструктур, як звычайна, спадзяюцца, што ўсё як-небудзь "утрасецца".

*СТАТЫСТЫКА*

## ДАХОДЫ І ЦЭНЫ

Міністэрства статыстыкі і аналізу выпусціла ў свет зборнік "Аб рабоце народнай гаспадаркі Беларусі за студзень-жнівень 1995 года". За гэты перыяд грашовыя даходы насельніцтва павялічыліся амаль у 12 разоў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Рост жа спажывецкіх цэн пераўзышоў рост даходаў і зафіксаваны на адзнацы ў 15,4 раза ў параўнанні са студзенем-жніўнем 1994 года.

*ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ЗВЫШЛЁГКІ САМАЛЁТ...*





На базе доследна-канструктарскага бюро "Мір", якое працуе ў аэрапорце "Мінск-1", створаны двухмесны звышлёгкі самалёт "Мір-23". Гэта першы беларускі самалёт, у якога ёсць шанс стаць серыйным. Авіяцыйная тэхніка класа звышлёгкіх лятальных апаратаў з-за свайго параўнаўча таннага кошту можа шырока прымяняцца ў народнай гаспадарцы. Такія самалёты неабходныя пры назіранні за ляснымі масівамі, нафта- і газаправодамі, у іншых выпадках.

Цяпер самалёт праходзіць другі этап лётных выпрабаванняў. Правесці тэсціраванне "Мір-23" на адпаведнасць нормам лётнай годнасці з канструктарскага бюро Паўла Сухога спецыяльна прыехаў лётчык-выпрабавальнік першага класа, неаднаразовы і абсалютны чэмпіён свету, Герой Расійскай Федэрацыі Яўгеній Фралоў. Ён даў высокую ацэнку самалёту, створанаму беларускімі канструктарамі.

**НА ЗДЫМКАХ:** самалёт "Мір-23" праходзіць лётныя выпрабаванні; кіраўнік доследнага канструктарскага бюро, пілот Аляксей **ЯФРЭМАЎ**.

# ЗАСТАЮЧЫСЯ САБОЮ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

З глездзішча тае ж самае праблемы асэнсоўваецца ім гістарычны, па большасці драматычны шлях краіны, абумоўлены ў многім яе прамежкавым геацывілізацыйным становішчам, канкрэтна -- паміж "праваслаўнай" Расіяй і "каталіцкай" Польшчай, -- у проціборстве і ўзаемадзеянні з якімі Беларусь на працягу стагоддзяў мусіла бараніць свае этнакультурнае індывідуальнасці, уласнага права на суб'ектна дзейсную ролю ў гістарычным працэсе.

**Вораг польскі і рускі**
**Шчыра множыў курганы, --**
**Не было Беларусі,**
**Толькі быў "Край забраны".**

**Расіяне, палякі**
**Ды французы і шведы**
**Беларускай крывёю**
**Палівалі край гэты.**

*"Летапіснае". 1928.*

Вельмі паказальнае, для Купалавай паэтыкі навогул характэрнае сэнсава-рытмічнае сугучча вобразных паняццяў "курганы" -- "забраны", дзе ландшафтна-сымбалічнае, "курганнае" ўвасабленне роднага краю накладваецца на яго пад'ярэмны "экурганены" стан. Але гэта знешняя, панарамна разгорнутая карціна Беларускага Лёсу, за покрывам якой кіпяць роспаччу й пратэстам патаемныя глыбіні зняважанай ды ўсё ж нескаронае Беларускае натуры:

**Годзе заходняй**
**ці ўсходняй культуры!**
**Для беларуса цана ім адна.**
**Усе вы, панове,**
**аднакай натуры:**
**З сэрца чужога кроў**
**ссалі б да дна.**

**Вашу карысць нам і**
**вашы паслугі**
**Добра ўжо скеміў**
**таптаны народ.**
**Добра вядомы і путы,**
**і пугі,**
**Песціў якімі ваш захад**
**і ўсход.**

*"Годзе!.." 1912.*

Дзёрзкі, не пазбаўлены пэўнага эпатажу паэтычны выклік сумежным бакам Беларусі паўстае ў якасці своесаблівага мастацкага сінтэзу адносна ролі "Захаду" і "Усходу", а дакладней, фактычных наступстваў панавання ў краі іншаземшчыны, пры якім сістэма культурнага ўзаемадзеяння падмяняецца і падмінаецца сістэмай ушчамлення й выцяснення культуры карэннай, беларускай, палітыкай асіміляцыйнага абалваньвання абарыгенаў. Купала наўрад ці перабольшваў. Якуб колас у аналагічным пытанні выказаўся не менш "нелицеприятно" ("З двух бакоў айцы дубінай заганялі нас у рай"). Як і Ігнат Абдзіраловіч (І. Канчэўскі), у сваім філасафічным абагульненні тае ж самае праблемы: "Уплывы Захаду і Усходу ў перакручаных,.. часам карыкатурных выразах круцілі і гвалцілі душу беларуса, толькі прымушаючы яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытварыць нешта сваё, роднае, блізкае, арганічнае". Пэўна ж і Купалава паэтычная апазіцыя падыктавана ў даным выпадку не самым фактам, але дэфармаванай, "перакручанай" прысутнасцю іншаземных культур на Беларусі, іхнім місіянерствам, спрэчным з ідэяй самацэннасці кожнае нацыянальнае культуры, духоўнай дасканаласці, генетычна закладзенай у кожным народзе. Спусташальныя наследствы гэтага місіянерства на беларускім абшары, падмацаванага стараімперскім "Divide et impera", занадта білі ў вочы, ранілі свядомасць ці не кожнага, душою не атлусцелага грамадзяніна, каб не заўважыць іх, не назваць дакладным імем:

**Што вы прынеслі! Што!..**
**Загляньце**
**Да беларуса сумных хат...**
**З тых самых лык пляце**
**ён лапці,**
**Якія плёў сто год назад.**

*"Апекунам". 1909.*

"Лапцюжная" Беларусь у выяўленчай сістэме Купалы -- гэта не толькі, не столькі нават метафарычнае ўвасабленне ейнага сацыяльнага заняпаду. Перад чытачом не проста алегарычны вобраз, але мастацкая, надзіва ёмістая сімволіка грамадска-гістарычнай і філасофскай насычанасці, якая не толькі засяроджвае чытацкую ўвагу на тых ці іншых рэаліях, але яшчэ больш засцерагае, па-прарочаму, суродзічаў ад духоўнага паярэмлення -- "лапцюжніцтва" ("абуванне ў лапці") і жабрацтва, -- варушачы й падкрэсліваючы агульнейшую ідэю нацыянальнае тоеснасці, годнасці чалавека.

Такім самым, падкрэслена сімвалічным назвай і зместам успрымаецца і верш "Хаўруснікам" (1913), зроджаны з колішняе канкрэтнае практыкі асімілятарства на Беларусі польскага і рускгаа друку ("Gazeta codzienna", "Виленский вестн[illegible]"), аднак, як можна заўважыц[illegible]сычаны невычэрпным сэнсам, "бесконечными жизненными возможностями" (А.Ф. Лосев) адносна Беларускае ідэі -- як ідэі самавызначэння й самарэалізацыі народа пры пастаянным асіміляцыйным націску зг[illegible]:

**"Gazeta [illegible]рмоча:**
**"Нех бэндзе ён ляхам".**
**А "Вестник" -- пусть лучше**
**Московским прет шляхом.**

**Спрачаліся доўга,**
**Як край наш раскрасці,**
**Дый спеліся ўрэшце:**
**Парваць на дзве часці.**

**Адна часць Варшаве**
**Лізаць ногі будзе,**
**Маскве хай другая**
**Нясе свае грудзі.**

**Забыліся толькі**
**Хаўруснікі ночы**
**Спытаць беларуса,**
**Чым сам ён быць хоча.**

Мінулае краіны ў мастацкім светабачанні паэта паўстае пераважна як гісторыя-драма ў выглядзе бязлітаснай іроніі, міфічнага далакопа беларускай незалежнасці й самабытнасці, хвалы й красы -- некалі, у сівой, рамантызаванай пад пяром паэта даўніне, вызначаўшых яе жыццё і росквіт ("З мінуўшых дзён", "Казка аб песні", "Над Нёманам", "На куццю" і інш.). Падобны матыў побач з лірыкай працінае публіцыстычныя творы пісьменніка; для прыкладу -- "А ўсё ж такі мы жывём!" (1914), дзе аксюмарыстычны зачын (прыём таксама тыповы для Купалавага стылю) аб "шчаслівай"... паднявольнай Беларусі надае асаблівую сэнсавую завостранасць, выяўленчую экспрэсіўнасць ствараемаму малюнку-вобразу: "Шчаслівы край -- гэта наша Бацькаўшчына Беларусь! Які час гістарычны ні возьмем, з якога боку цяперашчыны ні глянем, адусюль, як у Піліпаўку снег, сыпаліся і сыплюцца на яе апекуны... І кожны з гэтых няпрошаных апекуноў цягне душу беларускую на свой млын... Ідзе ганебны торг, паскудная камедыя над няшчасным, абязволеным беларусам".

З усяго вышэйсказанага напрошваецца агульная выснова. Сустрэча, узаемадзеянне, а больш дакладна, проціборства Усходу і Захаду на беларускіх землях абярнулася для іх трагікамічным, бязглуздым ("дурным") сінтэзам: палітычнай смерцю, культурным заняпадам, дэфармацыяй нацыянальнае свядомасці беларуса. Мастацкі аналіз недарэчнага, пад "чужацкай апекай" паміранне Беларушчыны на Беларусі здзейснены Купалам праз "малыя" пераважна жанравыя формы (лірычны верш, эпіграма, байка, памфлет), на мінімальнай зазвычай паэтычнай "плошчы". Аднак жа высокі энергійны зарад і адпаведную выбуховую сілу нясуць у сабе вобразы і думкі, што стартуюць з невялічкае мастацкае "пляцоўкі". Падамо некалькі лапідарных, даволі прадстаўнічых вобразных абагульненняў, здатных, як здаецца, сілай Мастацкай Праўды спаборнічаць з Праўдай гістарычнае навукі і, натуральна, стымуляваць беларускіх Карамзіных і Салаўёвых на стварэнне праўдзівае, паўнавартаснае гісторыі сваёй краіны.

Вось ён, "усходне-заходні" сінтэз на Беларусі ў Купалавай мастацкай рэдакцыі: "Сотні лет непрыяцелем-братам прыбітая..." ("Беларушчына", 1908); "Так спіш, так жывеш мімаходам / Мой край, як сцяпная магіла / З сваім незавідным народам, з патухшай і славай, і сілай" ("Мой край", 1910); "Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава / Торг гургановы вядуць між сабой" ("Над Нёманам", 1911-1912); "Працай жывяцца нашай прыблуднікі, /А мы толькі ўздыхаем і плачам" "Не для нас...", 1911-1912); "На батракоў здаліся ўнукі,/На вольнай прадзедаў зямлі, /Пайшлі ў няволю без прынукі,/Як па вяровачцы пайшлі" ("Гарыслава", 1912); "Чужынцы запрэглі народ у прыгон, /А песню аддалі на здзекі" ("Казка аб песні", 1905--1916); "Упаў народ, змарнеў народ, забыўся /Як Бацькаўшчыну, як яго завуць" ("Свайму народу", 1918); "Не на пацеху дзеці даны /Матулі, што іх сцеражэ, /Усё адно сусед паганы/ У плуг жалезны запражэ" ("Як цені...", 1918); "І душыць кліч: "Ці доўга будзе нам заломам/Варшава панская і рабская Масква?!" ("Наша гаспадарка", 1918). І ўрэшце -- штосьці істотнае пра беларускую, дужа хвалёную сціпласць-талерантнасць: "Аграбленыя з гонару й кашулі, /З свайго прыпыну выгнаныя вон,/Мы дзякуем, што торбы апранулі/На нас ды з нашых нітак-валакон" ("Перад будучыняй", 1922).

Змрочным увасабленнем незавіднага "заломнага" лёсу Беларусі паўстае з Купалавых старонак збіральны вобраз-сімвал "чужака" з мноствам сумежных вобразаў-іпастасяў: "апекуны", "хаўруснікі ночы", "сваякі-суседзі", "блізкія і далёкія", "непрыяцель-брат", "чужынец-дзікун", "сусед паганы", "трутні, падкія на соты", "ваш захад і ўсход" і г.д. і да т.п.

Адваротны бок чужацкага "медалю", абсурдны працяг і завяршэнне іншаземнага панавання ў краіне звязаны з расплადненнем, засіллем у дэнацыяналізаваным беларускім грамадстве халопскай ідэалогіі і псіхалогіі, сервілістычнага рабалепства перад чужацкімі прымхацямі. Гэтай жа акалічнасцю спароджаны, не менш распаўсюджаны, тып беларускага адшчапенца-перакіньчыка, таго самага нутранага халопа, у кім зацятая практыка асімілятарства ледзь не дашчэнту выпетрыла й амярцвіла нацыянальныя кляйноты і імпульсы, учыніўшы з яго адданага "апалагета і панегрыста" (М.Грушэўскі) сваіх парабаціцеляў і, у хаўрусе з апошнімі, цынічнага глуміцеля беларушчыны: "Свае таргуюць і чужыя табой, няшчасны беларусе!" ("Апекунам"); "З ярэмнай збрыўшы стараны/Царыць чужынец, а ў паслугах/ Хто? -- Беларускія сыны!" ("Беларускія сыны", 1919); "Сумленне, край прадаць гатовы/За бліск нагруднага значка" ("Адшчапенцам" (Заходнім"), 1926); "Былых не выклічаш вякоў/І ты, Масквы каронная гразь" ("Акоў паломаных жандар", 1926).

Па адрасу дамарослых, нацыянальна акалечаных валанцёраў чужацкіх інтарэсаў у родным краі скіравана востра публіцыстычнае, у біблейска-прытчавым стылі, слова пісьменніка, узрушана й пераканаўча даводзячы сучаснікам і нашчадкам аб вячыстым, непадуладным аніякаму рэнегацтву ідэале Беларуса-Грамадзяніна -- барацьбіта і гаранта свабоднае, незалежнае Бацькаўшчыны: "На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца... Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, пакалення ў пакаленне праклёншчымі ўспамінаць. (...) Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў (...) Змагайся і стань вольным, Беларускі народ!" (Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы, 1920).

У кантэксце адмоўнага сінтэзу "Усход-Захад" нельга абысці ўвагай парадыйна-камічныя праявы -- на побытавым узроўні -- беларускае рэчаіснасці, выніклыя з вонкава прымітыўнага ўпадабнення мясцовага правінцыяла "польскай" або "рускай" культуры. І тут на змену Купале-лірыку, публіцысту прыходзіць, а правільней, таго і другога давяршае не менш бліскуча Купала-камедыёграф, насяляючы мастацкі абшар краіны каларытнымі фігурамі Адольфа Быкоўскага, Пустарэвіча (камедыя "Паўлінка"), Мікіты Зносака, Усходняга Вучонага, Заходняга Вучонага (трагіфарс "Тутэйшыя") -- увечненымі ў смехатворных эмблемах іхняе "культурнасці": пустарэвічавым "вось-цо-да", зноскавым "между протчым".

Гэтым разам, асабліва ў "Тутэйшых", мастацкаму бескампраміснаму суду падвергнута адна з найвастрэйшых праблем беларускага нацыянальнага самапачуцця -- так званая тутэйшасць, штучны, блюзнерскі рыдван на беларускім целе. Тутэйшасць -- як праблема субкаланіяльнага або постімперскага ідэйна-бытавога хранатопу ў беларускім жыцці, канкрэтна -- у разнавіднасці "знасілоўшчыны" -- намі ўжо закраналася. Хацелася б толькі адцеміць сімвалічны, інакш -- шматзначны, невычэрпны сэнс створанага Купалам трагіфарса і перадусім -- прароча-засцярожлівае стаўленне драматурга да мімікрыстычных здольнасцей нашага Зносака-Знасіловія, -- аднолькава гатовага, як памятаем, служыць ці прыслугоўваць і справе чарнасоценца Пурышкевіча, свайго ідэйнага бацькі, і, пры змене абставін, нават "беларускаму асэсарству", наколькі, як цынічна заўважае, і пад беларускім сцягам "можна праводзіць у тутэйшую сермяжную шацію ісціныя прынцыпы аб ядынасці, непадзельнасці расейскай, между протчым, імпэрыі".

"Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, знішчожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нехта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе". А вось і моцнадзейснае лякарства ад збыдлячэння: "Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім "я", у сваёй самабытнасці і смеласці сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім "я". Цытуемы настаўнік Янка Здольнік, палкі прапагатар беларушчыны, жывая, хоць пераважна дэкларатыўная антытэза Зносаку і знасілоўшчыне ў пэўнай ступені ўвасабляе, ці, прынамсі, намякае на другі, станоўчы варыянт палітычна-духоўнага сінтэзу на Беларусі, абумоўлены найперш уласнымі нацыянальнымі інтарэсамі й вартасцямі, памножанымі на разумнае карыстанне з замежнага досведу.

Сутнасць і пафас Купалавай думкі ў яе мастацка-вобразнай праяве зводзіцца, рэзюміруючы, да наступнага.

1. Успрыманне "Усходу" і "Захаду", вузей -- суседніх Расіі і Польшчы датэрмінавана характарам і наступствамі іх уздзеяння на жыццёвыя лёсы Беларусі і беларушчыны, уздзеяння ў агульным гістарычным балансе адмоўнага, з неаблічальнымі стратамі для беларускага нацыянальнага будаўніцтва.

2. Выйсце -- ва ўрухаменні ўласных дзеятворчых рэсурсаў: беларускае палітыкі, культуры, нацыянальнае годнасці й самапавагі і ў першую чаргу -- самастойнае, незалежнае Беларускае Дзяржавы (палітычная публіцыстыка Купалы 1919--1920 гадоў вартая асобнага разгляду), -- "калі не хочам згінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі" (арт. "Больш самачыннасці", 1919).

3. Дэфармацыя "заходняй" і "ўсходняй" культур на беларускім абсягу не засланіла ад Купалавых вачэй найлепшых гуманістычных традыцый Захаду і Усходу, іхняга духоўнага ўзаемапранікнення, адбытага не ў апошнюю чаргу за пасрэдніцтвам таксама Беларусі, старабеларускай культуры.

Справа ў тым, каб знешнія ўплывы не прыніжалі, не прышчамлялі, але стымулявалі развіццё, узбагачэнне культуры айчыннай. Чаму яскравым доказам -- асабісты творчы вопыт Янкі Купалы, які ўзорна спалучыў Беларускае Адраджэнчае Слова, беларускую самабытнасць з рускай рэалістычнай літаратурнай школай (Пушкін, Някрасаў), украінскай і польскай вызваленчай рамантыкай (Шаўчэнка, Міцкевіч), заходнееўрапейскім сімвалізмам (Пшыбышэўскі, Метэрлінк, Ібсен). Узбагаціўшы беларускую культурную традыцыю -- ад Скарыны, Гусоўскага пралеглую -- выйсця ў шырокі свет, застаючыся сабою.

**Аляксей КАЎКА.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### ПОЛЬСКАЯ "БЕЛАРУТЭНІКА"

Пад рэдакцыяй прафесара Альберта Барташэвіча ў Варшаве ўбачыў свет навуковы зборнік "Беларутэніка" ("Беларусістыка"), куды ўвайшлі працы як польскіх, так і беларускіх даследчыкаў.

Асноўнае месца ў зборніку займаюць літаратуразнаўчыя працы. Сярод іх -- "Наша ніва" і польская літаратура" Уладзіміра Стохеля, "Пра адзін з польскіх перакладаў "А хто там ідзе?" Я. Купалы" Зофіі Скібіньскай, "Мікалай Янчук як даследчык польска-ўсходнеславянскага паграніčча" Базыля Белаказовіча. Мар'ян Юркоўскі, Фларыян Няўважны і Вальдэмар Смашч прысвяцілі свае даследаванні творчасці беларускіх паэтаў, што жывуць на Беласточчыне і ўваходзяць у аб'яднанне "Белавежа", Аляксандр Баршчэўскі, Францішак Сяліцкі і Марыя Чурак -- беларускаму фальклору.

Некаторыя мовазнаўчыя працы (Анатоль Аксамітаў, Аркадзь Жураўскі, Надзея Панасюк, Мікалай Цімашук, Леў Шакун) надрукаваны ў зборніку на беларускай мове. Выйшаў ён у серыі "Даследаванні з расійскай і славянскай філалогіі".

### У НЯМЕЦКІМ ЧАСОПІСЕ

У апошнім, чацвёртым сшытку за мінулы год нямецкага часопіса "Штогоднікі па гісторыі ўсходняй Еўропы" пераважная большасць публікацый прысвечана Беларусі. Сярод іх вылучаюцца даследаванні "Нацыянальны рух беларусаў у XIX і ў пачатку XX стагоддзяў" Рудольфа Марка, "Нацыянальнае адраджэнне", беларусізацыя і саветызацыя" Бернгарда К'яры, "Спроба палітычнага канструявання беларускай ідэнтычнасці" Астрыд Сам. Міхаіл Кром разглядае становішча беларускай шляхты ў Вялікім Княстве Літоўскім.

У сшытку змешчаны рэцэнзіі на кнігу "Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі" і даследаванне Ю. Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй".

**Наталля ГОЛУБ.**




Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

-- Ну дык пацярпі або напіся халоднай вады!

Фэля прыкмеціла, што мы так інтымна размаўляем паміж сабой. Некалькі разоў кінула ў наш бок позірк, а пасьля перастала танцаваць і падышла да нас разам з партнёрам. Прывіталася са мной:

-- Добры вечар, пан Уладак!

-- Добры вечар!

-- Пазнаёмцеся, панове! -- рухам галавы яна паказала на Фабіньскага.

Караль падае мне такую ж дробную сьпешчаную, як у брата, даланю і павольна кажа:

-- Фа-а-біньскі!

А я адказваю басам, з відавочным выклікам насьледоўваючы яго інтанацыю:

-- Ла-а-бровіч!

Бэлка расьсмяялася. Фэля зьдзіўлена зірнула на мяне. Караль адступіўся.

-- Пан вельмі нярвовы! -- кідаю я Каралю ўсьлед.

-- Нібы французская сабачка, -- дадае Лорд і, зрабіўшы выгляд, што гэта не датычыла Караля, працягвае тлумачыць Андзі Салдатцы, якая яна міленькая і зграбненькая і палахлівенькая...

Бэлка сьмяецца. Фэля ссоўвае бровы, пасьля ідзе да грамафона і ставіць новую пласцінку. Караль сядае каля Зыгмунта, і яны, паціху размаўляючы, акідваюць усіх прысутных крытычнымі позіркамі. Пакрыўдзіліся.

Раптоўна з грамафонавай трубы вылятае ўзбуджаны візгат нейкага тэнара:

**"Дзе ж, о ты, маё каханьне!**
**Дзе жывеш, анёле мой!"**

-- У ліхтарні, -- паважна адказвае Лорд.

Дзяўчаты ў сьмех. Хлопцы таксама рагочуць. Фабіньскія моршчацца.

Мне вельмі хочацца выпіць. Кажу пра гэта Лорду.

-- Мудра! -- адказвае сябра.

Падыходзіць да Фэлі. Са сьмехам нешта гаворыць ёй. Пасьля разам выходзяць да суседняга пакоя. Гляджу ўсьлед: на яе смуглыя зграбныя ногі, лёгкія рухі бёдраў пры хадзьбе і адчуваю, што ўсё больш прыцягвае мяне, а ў той жа час баюся яе і... ненавіджу... Д'яблы ведаюць, што гэта такое!

Праз некалькі хвілін Фэля вяртаецца адна і крочыць да мяне праз увесь пакой. Гляджу ёй у вочы. Дзяўчына зьлёгку, як мне здалося, зь ironіяй усьміхнулася і прамовіла:

-- Пан Баляслаў просіць пана на хвілінку.

Выходжу ў іншы пакой, дзе адбылася авантура зь Алінчукамі і пацынкаванымі калодамі. Зараз стол стаяў каля вакна, побач убачыў Лорда.

-- Хадзі, браце! -- паклікаў ён. -- Трэба трошкі кульнуць сабе!

На стале бачу вялікі графін гарэлкі, закрашанай вішнёвым сокам. На талерках -- хлеб, агуркі і ладныя кавалкі шынкі. Лорд робіць шырокі рух рукамі.

-- Чым хата багата!

Мы пачалі шклянкамі піць гарэлку. Чарачкі стаялі побач і са смуткам узіраліся на нашу бяседу.

-- Фэля сказала мне, каб я цябе не напаіў! -- з поўным ротам вымавіў Лорд.

-- Так?

-- Угм!.. Маеш попыт.. Вазьміся за яе... Кароль-баба! Альфрэд два гады лазіў... Дасі яму па носе!..

Хутка ядзім і п'ём. Гарэлка скончылася. Мне робіцца штораз весялей. Лорд есьць, пазірае на мяне і кажа:

-- Карыстайся аказіяй!.. Я ведаю Фэльку наскрозь. Для цябе арганізавала гэты вечар... Яна трымаецца зводдаль, каб мацней цягнула. Разумееш?.. Памятай адзінаццатае прыказаньне! З бабамі ўмець трэба!..

Павучальным тонам дасьведчанага чалавека пачынае выхоўваць мяне. Ад гэтага робіцца прыкра, аднак нічога не кажу, бо ведаю, што ўсё ідзе ад яго шчырага сэрца.

Вяртаемся ў залу. Грамафон рэжа полечку. Фэля танцуе зь Зыгмунтам Фабіньскім. Яна часта пазірае на мяне. Дзіўная жанчына: яе цела ўсьцяж прываблівае, вочы -- адпіхваюць. Хлопцы ад яе шалеюць, яна ж зь усіх сьмяецца.

Гарэлка ўздымае мой вясёлы настрой. Жвава размаўляю з Бэлкай і ўсьміхаюся Фэлі. Заўважаю на яе твары адбітак непакою: думае, ці не занадта я выпіў!

Праз нейкі час яна скончыла танцаваць і садзіцца ля Лорда. Размаўляе са штучнай усьмешкай на вуснах. Пазіраю ёй у вочы і раптоўна адчуваю, што хача, каб запрасіў яе патанцаваць... Па хаце круцяцца пары: Зося з Юлікам, Лютка Зубік -- мажная, моцная -- танцуе з Алігантам, сьмешна падрыгваючы тоўстымі лыткамі, і выклікае ўсьмешкі на тварах прысутных, ён жа "элегантна", нахіліўшы набок галаву, на вялікай дыстанцыі ад сябе, вядзе даму ў танцы. Фэля без перапынку глядзіць на мяне. Адчуваю яе просьбу, ці... загад і падыходжу:

-- Панну Фэлю запрашаю на скокі!

Хвіліну глядзіць мне ў т[illegible] У яе вачах мяняецца выра[illegible] [illegible]спадзявана амаль са зьдзекам кажа:

-- Вельмі ўдзячна пану!.. Хачу адпачыць!..

Адчуваю сябе ніяка[illegible]. Амаль засаромлены вяр[illegible]ся да Бэлкі. Лаўлю яе лёгкую ўсьмешку.

-- Панна Бэлця! Пані дазволіць?..

Дзяўчына падымаецца зь месца. Пачынаем круціцца па зале. Стараюся ня думаць пра Фэлю, засяроджваю ўвагу на Бэлцы. "У яе такі сімпатычны тварык, прыгожыя вочы, і выдатна збудавана!.. Хлопцы ад яе ў захапленьні. Іх вабяць яе высокія грудзі... Магчыма, будзе лепшая, чым Лёня!" Не зьвяртаючы ні на што ўвагі, усё мацней прыціскаю яе да сябе. Бэлка паціху кажа:

-- Вар'ят!.. Перастань, ну, бо кіну!.. Людзі глядзяць...

Заўважаю, што мы танцуем адны. Усе цікуюць за намі. Прыкмеціў усьмешкі на тварах хлопцаў і дзяўчат. Караль і Зыгмунт пагардліва надзьмулі вусны.

Ціха кажу дзяўчыне:

-- Плюнь ты на іх, каханая! Хай паўзіраюцца!

-- Табе гэта добра казаць, а мяне на языках пачнуць мяньціць!

Перапыняем танец і садзімся ля вакна. Раблю выгляд, што цалкам заняты дзяўчынай. Фэля і Зося выходзяць з пакоя. Пачынаюць гатаваць гарбату. Браты Фабіньскія трымаюцца асобна ад рэшты людзей. Лорд разваліўся на крэсле паміж Андзяй Салдаткай і Маняй Дзюньдзяй. Нешта ім расказвае. Паненкі сьмяюцца.

Фэля з Зосяй вяртаюцца. Пры нашай дапамозе ставяць пасярод хаты вялікі стол. Падрыхтоўваюцца да гарбаты. Ёсьць варэньне, печыва, бутэрброды, цукеркі, арэхі.

Фэля запрашае нас да стала. Пачынаем піць гарбату. Усе, за выключэньнем мяне і Лорда, захоўваюць вельмі паважны выгляд. Караль і Зыгмунт трымаюць шклянкі, адстаўляючы далёка ўбок малыя пальцы, дзяўчаты стараюцца піць так, каб не сёрбаць: марудна, нібы без жаданьня, адкусваюць бутэрброды і печыва. Размова ўвесь час спыняецца. Адчуваецца агульная напружанасьць. Кіслыя твары братоў Фабіньскіх і іх скептычныя позіркі даастатку псуюць агульны настрой. Фэля падыходзіць да грамафона і ставіць новую пласцінку. Па пакоі паляцела гучная, вясёлая мелодыя "Полькі ў лесе".

Я танцаваў з Бэлкай, Зосяй і Люткай.

Танцуючы з Бэлкай, запытаўся:

-- Цябе можна правесьці дахаты?

Яна ўсьміхнулася.

-- Ведаю, пра што ты думаеш!

-- А што тут дрэннага?.. Ты мне вельмі падабаешся.

-- А язык за зубамі трымаць умееш?

-- Даю табе слова! Ані пікну! Хай мяне на граніцы першая куля напаткае.

-- Ну, ну!.. не заракайся!.. Веру табе!.. Зараз я разьвітаюся з усімі, а ты пачакай хвілін зь дзесяць, патанцуй зь Люткай, потым ідзі дахаты. Буду чакаць цябе ў першым завулку налева. Там нікога няма...

Скончылі танцаваць. Я далучыўся да гуртка, у якім сядзеў Лорд і перамытнікі. Фэля размаўляла з Зосяй і братамі Фабіньскімі. Я пачаў заляцацца да Дзюньдзі. Неўзабаве Бэлка, разьвітаўшыся з усімі, выйшла з памяшканьня. Сказала, што ў яе баліць галава.

Пачалі зноў танцаваць. Заўважыў, што Алігант таксама зьбіраецца адыходзіць. Тады разам, разьвітаўшыся зь сябрамі, мы выйшлі з хаты. На вуліцы сказаў Алiганту:

-- Забыўся нешта сказаць Лорду!.. Ты ідзі, праз пару хвілін даганю цябе.

Я ўвайшоў на падворак і, схаваўшыся за брамкай, пачакаў, пакуль Алігант адышоўся, тады хутка накіраваўся да завулка. Не спадзяваўся там засьпець дзяўчыну, бо стаяў моцны мароз.

Крочу хутка па завулку і ня бачу нікога. Раптам чую ціхі сьвіст і заўважаю Бэлку, якая выходзіць з сутоньня, схаваўшыся паміж сьцяной нейкай хацінкі і плотам.

-- Зьмерзла? -- запытаўся я.

-- Эт... Я гарачая. Мне мароз рады ня дасьць!

Прыціскаю да сябе дзяўчыну і цалую яе халодныя, пругкія рукі, гладкія, нібы костка, вусны. Пасьля бяру пад руку, і мы хутка праступем завулкамі, абмінаючы вялікія вуліцы.

Сьнег рыпіць пад нагамі. Мароз кусае за шчокі. На небе сьвецяцца зоркі: хітравата міргаюць нам. Цудоўна зіхаціць Вялікая Мядзьведзіца. Гляджу на яе і думаю: "Шкада, што не назваў адну з зорак Бэлкай!"

## 15

У сярэдзіне лютага першы раз за гэты месяц выбраўся ў дарогу і нават не меркаваў, што яна закончыцца так трагічна: што на доўгі час апынуся за кратамі.

Пайшоў, як звычайна, з групай Лорда. Нас было дзевяць: я, Лорд, Лёва, Шчур, Болек Камета, Ванька Бальшавік, Мамант, Фэлік Маруда і Алігант. Рэшта хлопцаў па розных прычынах засталася ў Ракаве. Тавар несьлі дарагі: шаўро, лакеркі, хром. Усё самага лепшага гатунку. Ношкі былі цяжкія, па 40 фунтаў, аднак яны былі невялікія і добра ўпакаваныя.

У дарогу падаліся адразу пасьля зьмярканьня. Круціла невялікая завея. Гэта спрыяла нам. Але хутка, пасьля пераходу другой лініі, усхапілася завіруха. Штораз мацнеючы, яна нечакана зрабілася магутнай стыхіяй, якая ператварыла прастору ў адно вялікае мора сьнегу.

У нейкім месцы група затрымалася. Хлопцы зьбіліся ў кучу. Стараючыся перакрычаць вецер, Лёўка прапанаваў усім вяртацца ў мястэчка. Лорд не згаджаўся на гэта. Казаў, што мы ўжо прайшлі траціну шляху і што вяртацца назад небясьпечней, чым ісьці далей, бо зараз цяжка было заўважыць, дзе знаходзіцца граніца, і таму можна лёгка папасьціся... Маніў -- у такое надвор'е масалкі сядзяць па зямлянках і паляць печкі. Ведаюць, што ў завейную ноч паляваць на кантрабандыстаў неразумна, бо хутчэй можна н[illegible]ецьна воўчую зграю. Зрэд[illegible]толькі прамерваюць граніцу змоцненыя патрулі.

Мы рушылі наперад. Лорд, Мамант і Камета па чарзе вялі групу: першаму ісьці па цаліку было найцяж[illegible] -- ён пракладваў сьлед для с[illegible]ў у глыбокім сьнезе.

Праз пэўны час завіруха перарасла ў сапраўдную буру. Вакол тварыліся дзівосы. У адно імгненьне вецер зрываў з агромністай прасторы сьнег і падкідваў высока ў неба, а мы, змучаныя, асьлепшыя, крочылі па абледзянелым насьціле... коўзаліся, валяліся. З упэўненасьцю нельга было зрабіць ніводнага кроку. Праз некалькі хвілін бура абвальвала нам на галовы цэлыя сумёты сьнегу, які перад гэтым віраваў у паветры, а пасьля засыпала нас па шыю. Затрымліваліся і адпачывалі. Потым павольна, крок за крокам, патанаючы ў сьнежных гурбах, рухаліся далей.

Бура, здавалася, паставіла сабе мэту -- ня даць нам дабрацца да пункта... Яна зьнянацку пачынае піхаць нас ззаду, нібыта дапамагаючы ісьці. Штурхае нас усё мацней, мацней і раптам са сьвістам і скавытаньнем адсоўваецца набок, а мы, не падрыхтаваныя да гэтага, валімся назад у сьнег. Пасьля чаго яна затойваецца на які-небудзь дзесятак секунд і, калі мы, падняўшыся, пачынаем крочыць наперад, адным ударам сьпераду прымушае нас спыніцца. Неўзабаве, нахіліўшыся ўперад, спрабуем ісьці далей з шырока расстаўленымі рукамі, каб захоўваць раўнавагу. Выглядала гэта так, як быццам мы плылі ў гіганцкім бялюткім віры. Тады віхура нясецца ўгару... Трыумфуючы, захлынаецца ад рогату, а мы зноўку ляцім на зямлю, залітыя потам, ледзьве схапіўшы паветра... Сядзім у сьнезе. А віхура гуляе ўверсе. Здаецца, яна ўвогуле не зьвяртае на нас увагу... Так сабе, забаўляецца толькі: сьпявае, галёкае, сьмяецца, ціха павявае і ганяецца за аплаткамі сьнегу!

Падымаемся... Зьнікае прытворства... І яна таксама ўстае... Раз'юшаная, ледзяная, бязьлітасная, вострая... Першы свой удар накіроўвае нам у вочы. Б'е цэлым сумётам сьнегу. Мы схіляем галовы: вітаем яе і молім. Не дае сябе ўпрасіць... Мала аднаго абвалу, азвярэўшая, злосная, п'яная, зьбірае ўвесь сьнег на полі з кіламетровай адлегласьці і кідае гэты патоп нам на галовы. Зараз ужо ня чуем, як віхура трыумфуе, як шалее, як рыкае... Мы аглушаныя і асьлепленыя. Захлынаемся дробным, зімным, асьцюкаватым лухам...

Выграбаемся на паверхню. Навобмацак адшукваем адзін другога і, правальваючыся па грудзі ў сьнезе, сыходзім зь вялізнага пагорка, які марудна паўзе наперад.

Віхура маўчыць, і гэта цішыня страшная: рыхтуецца нешта неспадзяванае!.. І'я не памыліўся. Немаведама адкуль спадае ўдар: некалькі сотняў тон сьнегу з усяе моцы абрынулася нам на галовы. Нестае часу, каб легчы, бо адразу налятае страшэнны подых ветру. "Ён хоча нас убачыць!" Другі ўдар. Зноў горы сьнегу абвальваюцца на нас. І зноў паўтараецца магутны подых ветру і зноў удар!.. І так раз за разам, удар за ўдарам.

Чалавек мог бы таксама гэтак забаўляцца. Укінуў бы ў вялікую мядніцу дзевяць майскіх хрушчоў, а пасьля біў бы ў іх жменямі мукі і раздуваў яе. Гэта была б вар'яцкая забава. Дурная і нікчэмная. І наш праціўнік ня меў літасьці. Больш дзесятка разоў ён зьмяняў тактыку барацьбы, хоць мы нават не маглі бараніцца. Наладжваў засады. Хаваўся. Уздымаў на нашым шляху горы сьнегу. Спрабаваў нас асьляпіць, паваліць, зьнішчыць, раскрышыць... Ён шалеў. Кідаўся. То грымеў сатанінскім рогатам, то енчыў, то галасіў.

Я крочыў з прыплюшчанымі вачыма. Шапку нацягнуў на вушы, а галаву пахіліў наперад. Хістаўся, валіўся, засядаў у насыпах, але ўпарта прадзіраўся наперад, адшукваў любую магчымасьць, каб зрабіць хоць некалькі крокаў. Мы спыняліся, каб паглядзець, ці хто-небудзь не адстаў.

Абміналі палі і трымаліся лесу. Там захіналі нас дрэвы, разьбіваючы зацятыя атакі віхуры. Там лягчэй было прасоўвацца наперад. Але лес скончыўся, і зноў трэба было выходзіць на поле і зноў змагацца, упарта зацiскаючы зубы і кулакі.

Крочылі, не захоўваючы ніякіх сродкаў бясьпекі. Хто мог за намі пагнацца? Хто выйшаў бы ў такую ноч з хаты? Мы былі адзінымі жывымі істотамі на вялізнай, залітай сьнегавым патопам раўніне.

Некалькі разоў у дарозе спыняліся і пілі сьпірытус. Гэта дадавала нам моцы, уліваючы ў цела полымя, падбухторвала да новай барацьбы зь сьнежнай навалай. Мне было душна і горача. Па твары сьцякаў пот. Сьлёзы ліліся са збалелых вачэй. Я не ішоў, а пнуўся наперад. Вецер жа навокал гукаў, галасіў, выў, сьпяваў, галёкаў. Дзёр на нас апратку. Ірваў з плячэй ношкі. Матляў перад намі прасторай, нібы белай хусткай. Шумеў, як мора. Гучаў, бы пярун, і рагатаў, рагатаў, рагатаў...

Здавалася, што ня выберамся адсюль, што назаўжды застанёмся ў гэтым жахлівым белым пекле... І дзіўная рэч: калі часам, асьлеплены, прыкрываў вочы, я бачыў блакіт неба, сонечныя зайчыкі, фарбы кветак... Бачыў прыгожы твар Фэлі. Бачыў усьмешку Бэлкі. Чуў іграньне на гармоніку Антося, сьпеў Салаўя. А найбольш перад вачыма стаяла Лёня. Бачыў яе выразна; чуў яе голас, сьмех... Найбольш думаў пра яе. Магчыма, таму, што зь ёй заўсёды было найлепей, найцяплей, найспакайней.

"Магчыма, праз гадзіну, праз дзьве прыйду да яе!.. А можа, і ніколі!"

Толькі пад раніцу, зусім выбітыя з сіл, мы дабраліся да хутара Бамбіны. У дарозе знаходзіліся 14 гадзін.

Хлопцы паселі на сьнезе, і было падобна, што ўжо не крануцца далей. Выглядалі страшэнна.

Лорд зьвярнуўся да мяне:

-- Пойдзеш на хутар? -- вымавіў сіпатым голасам.

Працяг.
Пачатак у №№ 29—39.

## ПІСЬМЕННІКІ Ў АБАРОНУ ДЭМАКРАТЫІ І КУЛЬТУРЫ



# ГАРАНТЫ СВАБОДНАГА РАЗВІЦЦЯ

Ён адбыўся 31 жніўня — 3 верасня 1995 года -- Другі міжнародны кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтра ў абарону дэмакратыі і культуры на тэму: "Незалежная прэса: свабода і адказнасць". Нагадаю, што Першы кангрэс, тэма якога была азначана як "Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя", прайшоў у мінулым, 1994-м годзе, 18--20 траўня.

І тым, і другім разам кангрэсы адбыліся непадалёк ад Мінска, у Доме творчасці пісьменнікаў "Іслач". І тым, і другім разам тут бралі ўдзел людзі вядомыя: вядомыя сваім талентам, сваімі працамі, сваёй дзейнасцю. Зноў сабраліся тыя, каго непакоіць лёс дэмакратыі і культуры, лёс нацыі, лёс мовы, лёс асобы.

Як і мінулым годам, задаў тон Васіль Быкаў. Ён гаварыў пра культуру ў посттаталітарным грамадстве, якое, паводле слоў Быкава, "робіць даволі арыгінальную ў гісторыі спробу -- абысціся зусім без культуры", разважаў пра "парадаксальную схільнасць сучаснай культуры да самаразбурэння", пра тое, як "прадукты распаду" сучаснай культуры "атручваюць свядомасць масавага грамадства", "на генетычным узроўні развіваюць далёка не лепшыя інстынкты, закладзеныя ў чалавека дзікай прыродай". Вёў размову Васіль Быкаў і пра суадносіны мастака і ўлады, пра заўсёднае імкненне ўладароў прыручыць і купіць творцу. Адчыняючы кангрэс, прэзідэнт ПЭН-цэнтра адзначыў, што не мае вялікіх ілюзій адносна ўплыву гэтага форуму на падзеі ў грамадстве, у Беларусі ў прыватнасці, аднак, "валодаючы пэўным вопытам непадлегласці злу", нельга не мець "клопату пра будучыню чалавецтва, лёс нацый". "Фундаментальныя каштоўнасці хрысціянскай цывілізацыі абавязваюць нас сказаць сваё слова, якое, можа быць, будзе пачута не толькі ў гэтай залі", -- так скончыў сваё выступленне на кангрэсе Васіль Быкаў.

І хаця не ўсе падзялілі гэтую надзею -- Віктар Казько, напрыклад, увогуле выказаў думку: ці варта было збірацца, дзеля чаго? -- аднак гучалі прамовы, што сведчылі і пра імклівае жыццё думкі, і пра высокі ўзровень мыслення, і пра веру ў будучыню беларускай нацыі, і пра надзею абароны дэмакратыі.

Вёў размову-прытчу з глыбокім падтэкстам Ян Бохеньскі: ён не мае думкі на гістарычны прэцэдэнт адмаўлення Беларусі ад свабоды. Як і мінулым годам, спалучыў грамадзянскую і філасофскую насычанасць думкі з яркай вобразнасцю Эўген Свярсцюк. Ярка-метафарычна гаварыў пра лёс Бацькаўшчыны Рыгор Барадулін. Звярнуўся да наймудрай кнігі Васіль Сёмуха, спраецыраваўшы на сённяшні гістарычны сюжэт Беларусі вельмі часта згадваемы зараз узор лёсу народа Майсеевага. Зазначылі тэарэтычную вышыню ў сваіх выступленнях Алесь Разанаў -- аб разуменні паняцця свабода ў шырокім сэнсе, Міхась Тычына, што гаварыў пра феномен масавай свядомасці і свабоду творчасці. Зрабілі абгрунтаваныя гістарычныя экскурсы Уладзімір Арлоў, Анатоль і Валянцін Грыцкевічы.

Масквіч Аляксей Сіманаў нават абурана абвінавачваў прамоўцаў у залішняй адстароненасці і "высокалобасці", на што яму слушна запярэчылі, што, на жаль, у нас, беларусаў, усё ўзаемазалежна і нам кожны раз наноў трэба даказваць і адваёўваць тое, што для рускіх, напрыклад, ніколі не было праблемай: што мы нацыя, што ў нас свая мова, што мы маем сваю гісторыю. І што для нас свабода слова неад'емная ад гэтых доказаў. Канкрэтна ж менавіта пра сённяшні стан свабоды слова вялі размову і запрошаныя праваахоўнікі і практыкі друку: Валянцін Аскоцкі, Барыс Пустынцаў, брытанскія і нямецкія калегі, беларускія ўдзельнікі форуму: Анатоль Казловіч, Сяргей Законнікаў, Валянцін Тарас, Генадзь Бураўкін, Адам Мальдзіс, Лявон Баршчэўскі, Алесь Мікалайчанка і інш.

Занепакоенасць сённяшнім узроўнем грамадскай свядомасці і магчымасцямі для існавання свабоднага друку выказвалі ўсе, але, магчыма, найбольшая трывога прагучала ў выступленнях Сакрата Яновіча і Вітаўта Кіпеля. Менавіта ім, прадстаўнікам беларускай дыяспары, сёння найбольш цяжка абараняць і захоўваць беларускае слова за мяжой -- пасля ўсім вядомых вынікаў рэферэндуму.

Пасля трохдзённай размовы былі прынятыя Дэкларацыя кангрэса і рэзалюцыя, у якой, у прыватнасці, гаварылася: "Удзельнікі Другога кангрэса выказваюць свой рашучы пратэст супраць грубага парушэння існуючай раўнавагі паміж свабодай і адказнасцю, якое дапускаецца па ініцыятыве ўладных структур і прапагандуецца на старонках газет і часопісаў, сродкаў масавай інфармацыі, што фінансуюцца і падтрымліваюцца гэтымі структурамі, зноў і зноў нагадваюць, што Беларусь як суверэннае ўтварэнне павінна быць гарантам свабоднага развіцця культуры беларускага народа, павінна аказваць дзяржаўную, фінансавую і маральную падтрымку карэннаму насельніцтву ў яго духоўных памкненнях, у яго жаданні абапірацца ў сваім руху наперад на нацыянальныя традыцыі свайго народа, карыстацца беларускай мовай як крыніцай яго ведаў аб свеце і выразніцай яго настрояў, надзей".

Апошнім днём адбылося ўрачыстае ганараванне літаратурнымі прэміямі Алеся Адамовіча. Іх атрымалі журналісты Анатоль Казловіч, Павел Шарамет, Валянцін Жданко, Віталь Цыганкоў і кінадакументалісты Анатоль Алай і Самсон Палякоў. А пасля ўручэння прэміяў адбыўся сольны канцэрт Віктара Скорабагатава з яго унікальным рэпертуарам. Талент гэтага спевака -- тэма асобнай гаворкі, адно можна зазначыць, што слухачы ў яго былі ўдзячныя. А творчы вечар Міхася Заборава, на жаль, не адбыўся: госць захварэў.

4-га верасня ўдзельнікі кангрэса ад'ехалі ў Глушу на адкрыццё помніка Алесю Адамовічу. І не грэх было б некаторым прыткім абаронцам гонару чалавека, які ніколі не падаў бы ім рукі, ведаць, што і мінулым годам, і гэтым кангрэс прайшоў пад знакам памяці гэтага таленавітага пісьменніка, смелага чалавека, мужнага абаронцы правоў асобы.

**Ладысь СТАХ.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі кангрэса ў Доме творчасці "Іслач".**

# КУДЫ ІДЗЕМ?

Апошнім часам журналісты з суседняй краіны любілі падкрэсліваць, што сакральныя пытанні "Што рабіць?" і "Хто вінаваты?" застаюцца асноўнымі ў адкрытай верагоднасці жыцця. Але, мабыць, для нас, беларусаў, ды і для іх, расіян, для сусветнай супольнасці галоўнае пытанне ў Anno Domini 1995: "Quo vadis?" -- "Куды ідзеш?"

Куды ідзем? З кім? Дзеля чаго? Мы, сучаснікі, сведкі, удзельнікі быційнага павароту. Калі адбываюцца не толькі вырашальныя для лёсу народаў падзеі, але пагроза катаклізмаў відавочна навісла над планетай Зямля, а цывілізацыя ўсё больш аказвае свае ценявыя бакі, і мысленне Новага часу змяняецца кардынальна ў сферы фундаментальных чалавечых рашэнняў, зыходных, стрыжнявых катэгорый існавання.

Як кожная эпоха, так і наша вызнае свае дзействы: свае баталіі, свае святыні, свой тэатр, свае балаганы... Наладжвае свае гульні... На фоне якіх, ці хутчэй -- побач, залежна і незалежна, -- маюць быць сапраўдныя вымярэнні чалавечага Быцця: слова (логас), любоў, сэнс. Адбываецца творчасць жыцця. Індывідуумаў, соцыумаў, нацый, народаў, супольнасцяў.

Тых асоб, што набываюць свой чалавечы статус у рэчаіснасці як стваральнікі каштоўнасцяў, якія стрыжнем сваім маюць духоўны сэнс. У нечым выяўлены знакамі -- нотамі, словам, выявай карціны, а ў нечым залежны толькі ад духоўнай субстанцыі творцы і ўспрымальніка і інтэрпрэтатара: музыкі, слухача, чытача, наведвальніка вернісажа. І ў саміх творах будзе пазначаны ўнутраны свет творцаў, залежны ад таго, што завецца знешнім атачэннем, і -- незалежны ад яго. Герменеўтыка, праўда, лічыць біяграфію вышэйшай і найбольш павучальнай формай гуманітарнага даследавання і -- адпаведна -- надае ролю галоўную ў самавыяўленні асобы. Але, як мы ведаем, самарэалізацыя ў фактах, падзеях жыцця не заўсёды супадае з самавызначанасцю, самадастатковасцю асобы. Сацыялогія жыццёвага шляху і псіхалогія развіцця -- яны не заўсёды адэкватныя псіхафізічнай індывідуальнасці. Свядомасць і самасвядомасць суб'екта залежаць і ад сацыягенетычнай арыентацыі, і ад біягенетычнай, і ад персаналагічнай.

Апошняе дзесяцігоддзе дало нібыта незвычайныя магчымасці для выяўлення творчага патэнцыялу -- і сацыягенетычнай арыентацыі, і персаналагічнай. Я не выпадкова ўжыла гэтае слова -- нібыта. Разбурэнне палітычных, эканамічных, сацыяльных, свядомасных, шмат у чым этычных і эстэтычных стэрэатыпаў, свабода самавыяўлення далі магчымасць спраўдзіць сваё "я" многім. Шмат каму -- стварыць ілюзію існавання свайго "я".

У нас на Беларусі апошняе дзесяцігоддзе прайшло пад знакам Адраджэння. І займела пад гэтым знакам немалыя набыткі: вяртанне гістарычнай і забароненай культуровай спадчыны -- ажыўленне, нават віраванне грамадскай, палітычнай, мастацкай думкі; з'яўленне новых кніг, друкаваных выданняў. З'яўленне новых -- асоб. Новых -- імёнаў.

Набыткі мелі ў асноўным гуманітарны характар. Пра гэта досыць гаварылі і пісалі. Набыткі спраўджваліся інтэлектуальнай элітай і былі адрасаваныя -- найбольш -- ёй. Гэта мела і свае станоўчыя вынікі. І адмоўныя. Станоўчыя -- культуровы імідж беларусаў відавочна выдаваў на тое, што мы маем магчымасць заняць "свой пачэсны пасад між народамі", маем шанц не згубіцца ў сусветнай супольнасці. Адмоўныя -- былі і ёсць: асобы, лідэры, яркія творчыя адзінкі. Не было асветнікаў. Не было ці, больш справядліва, амаль што не было людзей, што згодныя рабіць непрыкметную, чорную працу. І, на жаль, -- як кожны вызначальны гістарычны момант -- дзесяцігоддзе ўзняло на сваёй высокай хвалі і процьму людзей непамыснага эгаізму і асабістай карысці, чыё "я" ніколі не было роўнае ролі, на якую яны падбіліся. Не схільная падзяляць думку тых, што лічаць, нібыта незалежнасць звалілася на беларусаў як прэзент гісторыі. Гэты шчаслівы выпадак рыхтавалі і паўстанне Касцюшкі, і барацьба інсургентаў Каліноўскага, і літаратурныя вымогі Баршчэўскага і Дуніна-Марцінкевіча, і высокая трагедыя жыцця і творчасці Багдановіча, і геніяльнае месіянерства Купалы, і гераічны скачок у безвыходнасць і з безвыходнасці слуцкіх паўстанцаў...

Не, выпадку не было. Аднак эйфарыя -- была. І ад гэтага нікуды не падзенешся. Замест таго каб мацаваць дасягнутае -- гублялі. На палітычным, эканамічным, культуровым узроўнях. Згубілі тое, што не толькі гістарычна-экзістэнцыяльна было важна для нацыі. Настрой прымалі за светапогляд, учынкі і ментальны кірунак купкі людзей -- за волевыяўленне мас. Не кідаю некаму папрок. Кажу пра гэта як пра агульную памылку. Але -- памылку эпохі Беларускага Адраджэння. Эпахальную памылку. Згубілі гістарычны шанц. Не ўлічылі, што электарат быў выхаваны на вызначэнні: кожная кухарка можа кіраваць дзяржавай. І важны не ўзрост выбаршчыкаў, а зусім іншыя прычыны. Дарэчы, каб на выбарчыя ўчасткі прыйшлі толькі маладыя... Не ведаю... Згадаю толькі пра сумныя вынікі апытання для перадачы Познера (на ГРТ) напярэдадні юбілею Перамогі: усе спрэс маладзёны лічылі: калі б чырвоны штандар не ўзнялі над рэйхстагам, сёння ўнукі тых ваяроў сядзелі б ва ўтульных кавярнях і смакталі б піва...

Урэшце -- рэферэндум не быў ні для кога нечаканасцю, ці больш дакладна -- яго вынікі. Здзяйсненне падзеі і нарматыўныя сацыяльныя чаканні супалі. А ўсё вырашылася за год да тых падзей.

Між іншым, і сёння досыць эйфарыі. Мільён -- але які! Дык і абітурыенты, і студэнты абралі на экзаменах беларускую мову і літаратуру, хаця была свабода выбару. Гэта я чула з вуснаў рэктаркі Беларускай акадэміі культуры. (У нас сёння спрэс акадэміі, а ў Мінску ажно тры БАМы). Дык вось шаноўную рэктарку я вымушана была б расчараваць. Здавалі -- таму што рыхтаваліся не да альтэрнатывы. Таму што, прабачце, шпаргалкі рыхтавалі па беларускай мове і літаратуры. Між іншым, выпадкова давялося дапамагаць абітурыентам зняць з дыскеты тэкст пытанняў--адказаў: зроблена ўсё, каб адбіць цікавасць да літаратуры ўвогуле на ўсё астатняе жыццё. Вось тое самае -- ёсць лідэры, няма асветнікаў. І згадваецца хрэстаматыйна вядомае: бойкі выйграюць напачатку не маршалы, а настаўнікі. Асветнікі.

На сённяшні момант Беларускае Адраджэнне прайграла. І гэта нельга аспрэчыць. Не ведаю, з якім момантам гісторыі можна параўнаць сённяшнюю сітуацыю. Таму што нават у 1863-м і ў 1937-м былі "тылы". Ахоўнікам мовы і менталітэту нацыі -- ўсё ж! -- было сялянства. Не было факта адмаўлення нацыі ад сваіх карэнных вызначэнняў.

Праўда, дзесяць год -- не так мала, з'явілася новае пакаленне, ва ўзрост свядомы ўвайшлі нават пакаленні... Аднак... -- існуюць эгаахоўныя механізмы, ёсць псіхафізічная і сацыяльная дэтэрмінацыя. І маладая асоба будзе шукаць найбольш спрыяльныя заняткі, тыя, што будуць найбольш падахвочваць улада і ўладныя структуры. Як мы сябе ні суцяшалі б, прыгнёту самавызначэння нацыя пакуль што не вытрымала.

Аднак, мабыць, тым большую адказнасць, тым больш вырашальнае значэнне набывае творчасць. Разумею тут творчасць у шырокім сэнсе -- як творчасць жыцця. І як уласна творчасць. Для каго? Мне здаецца, больш -- дзеля чаго. Дзеля захавання нацыі. Яе набыткаў. Яе спадчыны. Каб не засталіся мы фрагментам гісторыі...

Жыццё твораць людзі веры, людзі ідэі. А не людзі факта. Нават калі гэта безліч паўтораны гістарычны факт. І толькі тыя, хто спрабуе спасцігнуць адвечную глыбіню жыцця, ствараюць сапраўдныя каштоўнасці.

...І гаворачы пра незалежную прэсу, тут, безумоўна, ад яе залежыць многае. Апошнім часам мы маглі ўпэўніцца, што свабода слова абумоўлена эканамічным падмуркам. Хаця -- калі падзеі апошняга часу будуць набываць моц -- мы можам згубіць і гэту свабоду. Але ёсць, так бы мовіць, і ўнутраныя непаразуменні. Выхад кніг, ад аўтараў якіх кнігагандаль адмахваўся ўжо дзесяць--пятнаццаць год назад. Састарэлыя метады вытворчасці, тэрміны працы, калі кнігі выходзяць праз гады, а часопісы -- праз месяцы...

Дарэчы, мы вельмі любім згадваць пра нашу еўрапейскасць, ажно часта аказваецца, што гэта пухавіцкі ўзровень Еўропы... А нам ніяк не выпадае правінцыйная арыентацыя. Нам трэба -- зноў і зноў -- даказваць, што мы нацыя, з усімі неабходнымі атрыбутамі. Даказваць -- творамі, што былі б не марнымі вышукамі, не гульнёй ідалаў, а мелі б на мэце вызначэнне ісціны, праз самастойнае значэнне Красы, Дабра, Дабрачыннасці. Увасобленых, спазнаных у канкрэтных выяўленнях, спрычыненых да сусветных ідэалаў, але з адзнакай Беларускага. Бо калі я чытаю прамову Пабла Неруды з выпадку ўручэння яму Нобелеўскай прэміі, мне робіцца ніякавата ад прыгожых, урачыстых, высокіх слоў: "Мова... Мы прайгралі... Мы займелі выйгрыш... Яны забралі ў нас золата і пакінулі золата... Яны забралі ў нас усё і пакінулі нам усё... Яны пакінулі нам словы..." Ён мае на ўвазе канквістадораў і іспанскую мову. Мабыць, ёсць у словах Неруды свая праўда. І свой сэнс. Аднак ёсць запаветная думка, каб мой народ ("не адзін мільён") захаваў сваё золата, ад якога ён самахоць адмаўляецца. І хай будзе сваё слова. Свая думка. Што ў глыбіні свядомасці. Свядомасці, пазначанай сваім, нацыянальным "вобразам свету". Свядомасці -- пазначанай агульнымі набыткамі і стратамі з сусветнай супольнасцю, яе жыццеадчуваннем. З якою мы разам ставім тое, сакральнае пытанне: "Куды ідзем?" З якою мы разам маем трагічнае светаадчуванне -- ад упартай канкрэтнасці бягучай гісторыі, ад страты сэнсу падзей, ад вызначэння духоўнага надвор'я, ад зачараванасці цяжкім вопытам апошняга стагоддзя. Ад неадступнага адчування беззваротнай зношанасці чалавецтва. Якое -- ці зможа ўзняць камень чалавечага лёсу, той самы, Сізіфавы? І паверыць у будучыню свету, а не толькі ва ўласную будучыню. Нягледзячы на злыбяды і гульні эпохі.

І ў наш сённяшні скрушны час згадаймем: "Ісціна ўзнікне з зямлі, і праўда прыхіліцца з неба". І да народа нашага.

Ці не так?

**Ала СЯМЁНАВА.**

## СТАРОНКІ З "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"



На Успенскай гары, самым высокім зараз у Віцебску месцы, знаходзіцца цікавы архітэктурны комплекс, вядомы пад назвай губернатарскага палаца. Яго гісторыя пачалася значна раней таго часу, калі Віцебск стаў цэнтрам губерні. У канцы XYIII стагоддзя тут існаваў сядзібны дом шляхціцаў Кудзіновічаў, які ў 1806 годзе быў набыты губернскім казначэйствам і перабудаваны ў палац губернатара. Час перабудовы дома прыпаў на перыяд панавання на тэрыторыі Беларусі архітэктурнага стылю ампір -- апошняй стадыі развіцця класіцызму. Некаторыя пераробкі, зробленыя на пачатку XX стагоддзя, унеслі ў архітэктурнае аблічча будынка пэўныя элементы мадэрна.

Асноўнай часткай палацавага комплексу з'яўляецца прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак. На яго першым паверсе размяшчаліся парадны вестыбюль з лесвіцай і пакоі слуг, другі паверх быў адведзены пад гасцёную, кабінет і іншыя парадныя пакоі, трэці -- пад губернатарскія апартаменты. У службовым корпусе, звернутым у бок ракі Дзвіны, знаходзіліся пакоі губернскага праўлення, канцылярыі губернатара, памяшканні для правядзення канцэртаў і спектакляў, у тарцовай частцы -- царква.

Губернатарскі палац звязаны з многімі гістарычнымі падзеямі і імёнамі знакамітых людзей, што наведвалі Віцебск. З вясны 1811 года тут жыў герцаг Аляксандр Вюртэмбергскі, брат першага караля Вюртэмберга і жонкі расійскага імператара Паўла І і Марыі Фёдараўны, які быў прызначаны на пасаду беларускага генерал-губернатара. Падчас акупацыі горада французскімі войскамі ў палацы два тыдні жыў імператар Напалеон Банапарт, які першапачаткова меў намер перапыніць у Віцебску кампанію 1812 года і зрабіць горад сталіцай заваяваных зямель. У 1831 годзе падчас першай у Еўропе эпідэміі халеры тут памёр вялікі князь Канстанцін Паўлавіч, брат расійскага імператара Мікалая І. У 1853--1854 гадах у палацы жыў расійскі пісьменнік Іван Лажэчнікаў -- тагачасны віцебскі губернатар.

Насупраць палаца губернатара ў невялікім скверы сярод дрэў узвышаецца простае і велічнае мемарыяльнае збудаванне -- помнік у гонар герояў вайны 1812 года. Устаноўлены ён быў у 1912 годзе на сродкі дабрачынных ахвяраванняў віцяблян. Помнік уяўляе сабой 26-метровы абеліск, зроблены з блокаў чырвонага



фінскага граніту, якія звужаюцца дагары і вянчаюцца чыгунным двухгаловым арлом на шары -- сімвалам Расійскай імперыі. На помніку ўмацавана чыгунная дошка з мемарыяльным тэкстам: "Бяссмяротнай доблесці герояў Айчыннай вайны -- удзельнікаў бітваў пад Віцебскам 13, 14, 15 ліпеня і 26 кастрычніка 1812 года".

Аўтар помніка -- архітэктар Іван Фамін, праект якога быў прызнаны лепшым на конкурсе, абвешчаным Пецярбургскім таварыствам архітэктараў. Абеліск высакароднага ружавата-карычневага адцення мае яўныя рысы стылю ампір, моднага на пачатку XIX стагоддзя, калі адбывалася вайна. Па кутах подыума, на якім усталяваны помнік, размешчаны чатыры чыгунныя марціры. Жаролы іх глядзяць у розныя бакі, што сімвалізуе непрыступнасць гэтага месца з усіх бакоў свету.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: былы палац губернатара ў Віцебску; помнік героям вайны 1812 года.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## З ЛЕТНЯЙ ВАНДРОЎКІ ПА ВЁСКАХ БЕЛАРУСІ

# ДУХОЎНЫ НАКАЗ ПРОДКАЎ

Лета -- пара для фалькларыста чаканая і напружаная. І не толькі з-за радасці чарговаму адпачынку, колькі па прычыне надыходу экспедыцый па вёсках і вёсачках Беларусі. У размовах з бабулямі, у назіраннях за ходам размеранага сялянскага жыцця і проста ў захапленні сціплымі, але да болю кранаючымі і прывабнымі краявідамі прыходзіць спасціжэнне адвечнай чалавечай мудрасці. Усё глыбей усведамляецца непарыўная сувязь чалавека з прыродай і Сусветам наогул, усё яскравей выступае непадробнае хараство народнай песні і трапнасць слова. З пэўнай доляй суму даводзіцца прызнаваць, што ўсё напружанае жыццё селяніна праходзіць вакол фізічнай працы, дзеля таго каб карміць сябе і іншых, і такі нялёгкі плён нават і незаўважана знікае ў штодзённым быцці народа. Можа, менавіта таму і было надзвычай багатым унутранае, духоўнае жыццё сялянства.

Сёлета мае вандроўкі па вёсках Беларусі пачаліся непасрэдна пасля паездкі ў Кіеў на Міжнародную навуковую канферэнцыю. І след у душы пакінулі не столькі палкія навуковыя спрэчкі, колькі наведванні кіеўскіх кнігарняў. Вочы разбягаліся ад такога багацця народазнаўчай літаратуры, шыкоўна выдадзеных кніг па фальклору і этнаграфіі Украіны. Яскрава адчувалася павага да айчыннай гісторыі і культуры свайго народа з боку дзяржавы. Аб разнастайнасці і высокім выдавецкім узроўні дзіцячай літаратуры на ўкраінскай мове цяжка ўспамінаць, бо сціскаюцца грудзі ад болю і крыўды за сваю краіну. Кантраст кіеўскіх і мінскіх кніжных крамаў ці не такі, як супермаркета і раённага універмага. Сумна...

Але затым паездкі па Лепельшчыне -- надзвычай песенным, цікавым краі -- надалі трохі аптымізму. Жыве багатае, трапнае, дасціпнае, прыгожае беларускае слова. Гучаць яшчэ песні, і не толькі на сцэне мясцовых клубаў. Адна бабулька прызналася: пакуль грады пераполе, усе песні перапяе-ўзгадае. аднак больш мяне ўразіў такі яшчэ мала даследаваны пласт вуснай народнай творчасці, як прыкметы і павер'і, ці, па-народнаму кажучы, забабоны. Яны аказаліся надзвычай жывучымі, бо і сёння шмат кім выконваюцца, хаця і забыўся іх глыбінны міфалагічны сэнс.

Павер'і суадносяцца з будзённым жыццём чалавека ва ўсім яго аб'ёме -- з раскладам на дзень, з домам і хатняй гаспадаркай, з адзеннем і ежай, з адносінамі як у межах сям'і, так і паміж адновяскоўцамі. Паводзіны чалавека былі даволі разнастайныя, але яны разам з тым падпарадкоўваліся агульнапрынятай сістэме нормаў. Тыпізацыя паводзін у значнай ступені залежала ад сферы дзейнасці і станавілася вызначальнай у крытычныя адрэзкі часу. Такія спецыфічныя моманты сялянскага жыцця звязваліся з ідэяй кантакту з "іншасветам", які ўключаў у сябе не толькі замагільнае жыццё, а і нячыстую сілу, касмічныя з'явы і пачынаўся фактычна ў кожнай хаце за печкай, парогам, акном, прысутнічаў уночы і апоўдні, у пэўныя святы. Набывала характар прадпісання ці забароны практычна кожнае вераванне, дзеянне ў гэтыя крытычныя моманты. Звычайныя прадметы сялянскага ўжытку пачыналі функцыянаваць як сімвалы і часцей за ўсё выступалі ў ролі пасрэдніка паміж светамі. Ды і наогул, амаль усе гаспадарчыя працы суправаджаліся забабонамі.

Асноўнай перадумовай выканання прадпісанняў з'яўляецца ўсведамленне іх як спрадвечнай спадчыны, духоўнага наказу продкаў -- "дзяды так рабілі, і мы гэтак будзем". Гэта і вызначала іх загадны характар для любога члена вясковай супольнасці. Гэтакім чынам захоўвалася непарыўная пераемнасць традыцый. Неабходнай умовай выхавання дзіцяці было засваенне ім пэўнай колькасці і сістэмы забаронаў і прадпісанняў, якія ў сілу свайго "маральнага імператыву" -- "рабі так, бо інакш шкодна, дрэнна, грэшна" -- былі даступнымі і аказваліся самым надзейным сродкам уваходу ў культуру.

Па вялікаму рахунку, крызіс духоўнага выхавання асобы (не адукацыі) і мае сваімі каранямі ігнараванне традыцыі, супрацьпастаўленне ёй, а вылучэнне сябе з Сусвету выліваецца ў ізаляцыю ад яго. Натуральна, выглядала б недарэчным вучыць нашых дзяцей, адпраўляючыся ў школу на экзамен, пераварочваць чапялу з віламі ды тлумачыць забарону есці ў шапцы страхам перад будучай глухой цешчай.

Але тут узнікае праблема, якую б маглі пракаменціраваць псіхолагі -- духоўная дзейнасць чалавека зарганізавана вакол пэўных стэрэатыпічных структур. Відавочна, адмаўленне ад адных вызваляе месца другім. Звыклая для сучасніка сітуацыя злачынства і разбэшчанасці па сваёй сутнасці ці не ў большай ступені неўласцівая і варожая душэўнасці чалавека, чым сто разоў асмяяная і затаптаная традыцыйная "прымхлівасць". Яшчэ невядома, хто выглядае больш "культурным" -- вясковая бабулька, якая торкае галень сярод градкі з цыбуляй ды кліча дзядоў на куццю, ці начытаны адукаваны дзяцюк, што, задраўшы ногі на стол, разважае аб мадэрнізме. Наогул, што ёсць культура: жыццё ў суладдзі і паразуменні з прыродай ці "навуковае" варварскае яе разбурэнне? І што з'яўляецца больш абсурдным -- партфелі з ідэямі меліярацыі Віцебшчыны ці пакінуты акрайчык-ахвяра лесавіку?..

Правільна, з'явы гэта нераўназначныя, і павярнуць гісторыю назад немагчыма, і ў гісторыі той не ўсё было гладка і прыгожа, але развіццё па законах дыялектыкі ідзе бы спіраль-змяя, калі ўсё новае ўяўляе сабой старое на больш высокай і дасканалай ступені.

... А вярнуўшыся з экспедыцыі, у віхуры сталічнага жыцця ўсё часцей згадваю покуці ў вясковых хатах, а там побач са строгімі вачыма святых спыняў на сабе позірк ручнікі-набожнікі, асабліва святочныя ручнікі. Чаргаваліся на іх чырвона-белыя палосы, чаргаваліся, як само жыццё нашае, дзе мяжуюць нараджэнне са смерцю. І злучаў неба і зямлю гэты радаводны ручнік, не даваў забываць продкаў і сцвярджаў бясконцасць і праўду жыцця.

**Таццяна ВАЛОДЗІНА.**

## ТЭЛЕФОНЫ З ВЫЗНАЧАЛЬНІКАМІ НУМАРОЎ

З пачатку навучальнага года ў Магілёве павінна была "ўзляцець" у паветра палова школ -- так сцвярджалі "тэлефонныя добразычліўцы" з юнымі галасамі. Таму школы Магілёва тэрмінова абсталёўваюцца тэлефонамі з вызначальнікамі нумароў.

Цяпер бацькам "пільных" вучняў давядзецца са сваёй кішэні кампенсаваць зрыў урокаў, выклікі сапёраў, пажарнікаў, медыкаў, работу міліцыі... Нядаўна малалетнія тэрарысты пагражалі ўзарваць аж тры гарадскія школы. Зрэшты, прыклады ў іх перад вачыма: нядаўна іх больш дарослыя "калегі" закідалі офіс фірмы "Атлант", якая ім чымсьці не дагадзіла, проціпяхотнымі гранатамі.

Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5243. Падпісана да друку 16.10.1995 г.